Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 2 (28)

ЛЮТЫ 1935 г.

МЕНСК — 1935

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## № 2 (28)

ЛЮТЫ 1935 г.

МЕНСК — 1935

# Пастанова

## Журы конкурса на лепшую райінспектуру Наргасучота

*ад 28 лютага 1935 г.*

I

Для ацэнкі выканання райінспектурамі паказчыкаў конкурса прыняць пяцібальную сістэму, прымяняючы яе ў адносіне паасобных паказчыкаў конкурса наступным чынам:

1. Па першаму паказчыку (арганізацыя справы ўчота і справаздачнасці ва ўсіх аддзелах РВК, у прыватнасці ў РайАНА),—своечасовае паступленне матэрыялаў ад РайАНА і Райздрава пры наяўнасці праверачнай работы з боку райінспектуры ацэніваецца ў 5 балаў, а пры адсутнасці праверачнай работы з боку райінспектуры—у 4 балы; акуратнае паступленне матэрыялаў толькі ад РайАНА—у 3 балы і толькі ад Райздрава—у 2 балы; невыкананне паказчыка ў цэлым—0.

2. Па другому паказчыку (своечасовае і добраякаснае правядзенне работ па перапісу жывёлы на 1-е студзеня 1935 г.) выкананне ўсіх наступных элементаў гэтай работы: а) добрая арганізацыя і падрыхтоўка перапісу; б) своечасовае правядзенне перапісу без парушэнняў аргплана і інструкцыі, в) добраякасная прыёмка первічных матэрыялаў ад рэгістратараў, г) добрая апрацоўка (зводка) матэрыялаў, д) своечасовае і добраякаснае правядзенне кантрольных абходаў, е) своечасовая здача КНГУ БССР матэрыялаў па перапісу (1-ай і 2-й чаргі)—ацэніваецца ў 5 балаў.

Пры наяўнасці дэфектаў у арганізацыі і падрыхтоўцы перапісу (п. „а“) здымаецца 1.

Пры наяўнасці дэфэктаў у правядзенні перапісу (п. „б“)—здымаецца 2 адзінкі.

За недобраякасную прыёмку первічнага матэрыяла і дрэнную апрацоўку (зводку) матэрыялаў—здымаецца $^1/_2$ адзінкі.

За несвоечасовае прадстаўленне ў КНГУ матэрыялаў 1-й чаргі здымаецца 1 і 2-й чаргі—$^1/_2$ адзінкі. Пры чым, спазненні (супроць вызначаных па плану тэрмінаў), зробленыя райінспектарамі да 1-га лютага ў разлік не прымаюцца, а спазненні пасля 1 лютага ўсе ўлічваюцца.

3. Па трэцяму паказчыку (поўная ліквідацыя запазычанасці перад сектарамі КНГУ па работам 1934 г.)— пры поўнай ліквідацыі запазычанасці да 1 студзеня 1935 г. даецца ацэнка ў 5 балаў, ліквідацыя запазычанасці на працягу студзеня м-ца 1935 г. ацэніваецца ў 4 бала і на працягу лютага—у 3 бала. Наяўнасць запазычанасці за 1934 г. на 1 сакавіка 1935 г. ацэніваецца ў 0 балаў.

4. Па чацвертаму паказчыку (пачынаючы з студзеня м-ца 1935 г. штомесячнае выкананне плана работ згодна зацверджанага КНГУ плана на 1935 г.)—акуратнае выкананне плана работ за студзень і люты ацэніваецца ў 5 балаў; калі быў прарыў у студзені м-цы, але ліквідаваны ў лютым—4 балы; пры наяўнасці прарыва на 1 сакавіка—0 бал.

5. Па 5-му паказчыку (забяспечыць своечасовае размеркаванне форм і кніг і ўвядзенне первічнага ўчота ва ўсіх с/советах раёна, у прыватнасці завядзенне не пазней студзеня м-ца кніг па формам №№ 1, 2-а, 2-б, 3 і 4, устанаўленне праз участковых інспектароў сталага кантроля за вядзеннем с/саветамі первічнага ўчота, правядзенне інструктажа работнікаў сельсоветаў)—выкананне гэтай работы па ўсім наступным элементам: а) забеспячэнне с/советаў кнігамі; б) правядзенне інструктажа, в) праверка ўвядзення первічнага ўчота ў сельсоветах і г) барацьба за ўнядрэнне гэтага ўчота—ацэніваецца ў 5 балаў; за несвоечасовае забеспячэнне с/советаў кнігамі здымаецца 1 бал; за неправядзенне інструктажу здымаецца 2 бала, за дрэнны інструктаж здымаецца 1, за неправядзенне праверкі ўвядзення первічнага ўчота—здымаецца 2 бала, за адсутнасць барацьбы за ўнядрэнне первічнага ўчота—здымаецца 1.

6. Па 6-му паказчыку (забеспячэнне своечасовага і добраякаснага складання гадавых справаздач па арганізацыям і прадпрыемствам раёна—калгасам, соўгасам, прадпрыемствам і г. д.)— пры наяўнасці своечасовага паступлення ўсіх справаздач ад калгасаў, прампрадпрыемств і гандлюючых арганізацый—даецца ацэнка ў 5 балаў; пры адсутнасці альбо непоўным атрыманні ўсіх справаздач: ад калгасаў здымаецца 2 бала, ад прампрадпрыемств—здымаецца 2 бала, ад гандлюючых арганізацый— здымаецца 1 бал.

7. Па 7-му паказчыку (вядзенне кнігі „асноўныя паказчыкі выканання народна-гаспадарчага плана па раёну“). Выкананне ўсіх элементаў гэтай работы: а) своечасовае запаўненне табліц;

б) поўны ахоп аб'ектаў; в) своечасовае складанне і прадстаўленне кіруючым органам раёна штомесячных аглядаў выканання плана з кароткім тэкставым аналізам ацэніваецца у 5 балаў. Пры невыкананні аднаго з першых элементаў (п. п. „а" і "б")—здымаецца $^{1}/_{2}$ бала, пры невыкананні апошняга элемента ( п. „в")—здымаецца 2 бала і невыкананне цалкам усей работы ацэніваецца ў 0 балаў.

8. Па 8-му паказчыку (асабіста раённаму інспектару і работнікам інспектуры праверыць на працягу 5 месяцаў не менш 5 с/советаў, 10 калгасаў, 1 соўгаса, 2-х прадпрыемств і 1 гандлёвую арганізацыю па становішчу ўчота і справаздачнасці і даслаць у КНГУ на працягу 5 месяцаў 2 агляда аб становішчы ўчотнай работы ў раёне)—ацэнка даецца ў залежнасці ад аб'ёма выканання гэтай работы, гэта значыць выкананне на 1 сакавіка 50% усей работы, ацэніваецца ў 5 балаў 40%—у 4 бала, 30%—у 3 бала, да 20%—1 бал.

9. Па 9-му паказчыку (здаць тэхнікум па статыстыцы ў аб'ёме не менш ведаў па „азбуке статистики")—пры арганізацыі ўчобы і вядзенні сістэматычна заняткаў даецца ацэнка ў 5 балаў; арганізацыя ўчобы, але з прарывамі ў занятках—ацэніваецца ў 3 бала і невыкананне паказчыка ў цэлым ацэніваецца ў 0 балаў.

10. Па 10-му паказчыку (узмацненне барацьбы супроць парушэння ўстаноўленых форм і тэрмінаў справаздачнасці і дачы неправільных справаздачных даных)—выяўленне фактаў спуска незацверджаных форм з прыняццем адпаведных мер—ацэніваецца ў 5 балаў, выяўленне фактаў без прыняцця адпаведных мер ацэніваецца ў 2 балы, правядзенне работы, але-ж без выяўлення фактаў ацэніваецца ў 3 бала, невыкананне паказчыка ў цэлым ацэніваецца ў 0 балаў.

11. Па 11-му паказчыку (мабілізацыя грамадскасці вакол пытанняў учота—прыцягненне прафсаюзных арганізацый, арганізацыя ячэек ВОСУ, кантрольных пастоў, асвятленне становішча ўчота ў мясцовым друку і г. д.)—выкананне ўсіх пералічаных элементаў гэтага паказчыка ацэніваецца ў 5 балаў; у выпадку, калі ячэйка ВОСУ арганізавана і працуе—даецца ацэнка ў 4 бала, калі ячэйка ВОСУ арганізавана, але слаба працуе—3 бала, калі арганізаваны толькі кантрольныя пасты—3 балы і невыкананне паказчыка ў цэлым ацэніваецца ў 0 балаў.

## II

Устанавіць, што неўключэнне райінспектуры ў абвешчаны конкурс не здымае ацэнкі яе работы конкурснай камісіяй (журы конкурса), але здымае райінспектуру толькі з кандыдатаў на прэміі.

III

Прапанаваць сектарам КНГУ, Учотнай Інспекцыі і Бюро перапісу жывёлы, на падставе маючыхся ў іх матэрыялаў, да 3-га сакавіка г. г. даць ацэнку выканання ўсімі райінспектурамі адпаведных паказчыкаў конкурса, прымяняючы 5-ці бальную сістэму парадкам, паказаным у п. 1 гэтай пастановы.

IV

Для падагулення вынікаў хода конкурса склікаць паседжанні журы конкурса штомесячна—1-га чысла.

Практыкаваць выклік паасобных райінспектароў на паседжанні журы конкурса для дачы неабходных тлумачэнняў.

Чарговае паседжанне журы конкурса склікаць 3-га сакавіка г. г.

Старшыня журы *Голанд*

Члены журы: *Магідаў*, *Арцемкоў*

---

# 1. АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова № 215
### Совета Народных Камісараў Саюза ССР
**Масква—Крэмль 5 лютага 1935 г.**

### Аб справаздачнасці па нарыхтоўчым аперацыям сельскагаспадарчых прадуктаў

Совет Народных Камісараў Саюза ССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім ведамствам і арганізацыям, якія праводзяць нарыхтоўку і прыёмку розных сельска-гаспадарчых прадуктаў, прадстаўляць Комзаг СНК СССР альбо адпаведным яго рэспубліканскім, краявым і абласным упаўнаважаным па іх патрабаванню копіі ўстаноўленай для памянёных ведамств і арганізацый сістэмнай справаздачнасці па нарыхтоўчым аперацыям.

2. Абавязаць усе ведамствы СССР і цэнтральныя арганізацыі ўперад усю ўвадзімую імі ўноў сістэмную аперацыйную справаздачнасць па нарыхтоўчым аперацыям, а таксама ўсе змены па гэтай справаздачнасці, папярэдне да іх разгледжаныя і зацверджаныя ў ЦУНХУ, унасіць на заключэнне Комзаг СНК СССР.

3. Абавязаць ЦУНХУ Дзяржплана СССР прымаць да разгляду формы справаздачнасці па нарыхтоўкам сельска-гаспадарчых прадуктаў толькі пры наяўнасці заключэння Комзаг СНК СССР.

Нам. Старшыні СНК СССР *В. Чубар*

Кіраўнік спраў СНК СССР *І. Мірошнікаў.*

---

## Пастанова № 96
### Совета Народных Камісараў Саюза ССР
**Масква—Крэмль 16 студзеня 1935 г.**

### Аб учоце і справаздачнасці па збору на патрэбы жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва ў 1935 г.

Совет Народных Камісараў СССР пастанаўляе:

1. Прадоўжыць на 1935 г. дзейнасць пастановы СНК СССР ад 23 студзеня 1934 г. № 157 „аб справаздачнасці па правя-

дзенню ў 1934 годзе збора на патрэбы жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва ў гарадскіх і сельскіх мясцовасцях", унесшы ў яго наступныя змены:

а) замест формы № 2, прадугледжанай літ. „б" артыкула I паказанай пастановы ўстанавіць разовую тэлеграфную справаздачу фінансавых органаў аб выніках вылічэння збора з гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў;

б) замест зводнай справаздачы, прадугледжанай п. 3. літ. „в" артыкула I паказанай пастановы, устанавіць дзве разовыя паштовыя справаздачы фінансавых органаў (папярэднюю і канчатковую) аб выніках учота гаспадарак, вылічэння збора і прадастаўлення ільгот гаспадаркам калгаснікаў і аднаасобнікаў.

2. Дапоўніць раздзел IV пераліку форм учота і первічнай дакументацыі ў сельскіх советах на 1935 год, зацверджанага пастановай СНК СССР ад 20-га лістапада 1934 г. № 2600, формай № 29-а пагаспадарчым спісам для вылічэння культзбора з гаспадарак калгаснікаў і аднаасобнікаў.

3. Даручыць ЦУНХУ Дзяржплана СССР у двухтыднёвы тэрмін па ўзгадненню з НКФінам СССР канчаткова зацвердзіць паказаныя ў п. п. „а" і „б" арт. I і ў арт. 2 новыя формы ўчота і справаздачнасці і ўстанавіць тэрміны прадстаўлення апошняй.

Нам. Старшыні СНК СССР *Куйбышэў.*

Кіраўнік спраў СНК СССР *Мірошнікаў.*

---

## Пастанова № 131

### Совета Народных Камісараў БССР

*27 студзеня 1935 г.* *г. Менск.*

### Аб зацверджанні форм справаздачнасці па землеўпарадкаванню на 1935 г. для Наркамзема

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прадстаўленыя НК Земляробства сумесна з Кіраўніцтвам Народна-гаспадарчага учота БССР формы месячнай справаздачнасці на 1935 год па землеўпарадкаванню ад райземпартыі для аддзела землеўпарадкавання і меліярацыі НКЗБ за № 1 і 2 зацвердзіць.

(Формы адчотнасці № 1 і 2 дадаюцца).

2. Устанавіць тэрмін прадстаўлення адчотнасці ад райземпартыі па ўказаным формам (№ 1 і 2) для Наркамзема 5-га чысла кожнага месяца.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР *А. Саакян.*

Нам. кіраўніка спраў
Совета Народных Камісараў БССР *І. Пятровіч.*

*Дадатак да паст. СНК БССР*

*№*............*ад*............

**Форма № 1**

# С П Р А В А З Д А Ч А

Начальніка............Райземпартыі............аддз. Землеўпарадкав. і меліярац. НКЗБ.

По палявым выкананням работ / Па камеральным выкананням работ за............месяц 193....г.

| Віды работ | Назва аб'ектаў (груправана і стадый па геаработам) | Маштаб | За справаздачны месяц | | | | | | | | З пачатку года | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Число ахопленых аб'ектаў | Аб'ем работ у натуральным відзе | | Забракавана пры прыёме | | Затрачана тэхніка-дзён | | | З числа ахопленых аб'ектаў | Закончана работ (Палявым завяршэн. камеральн. завярш.) | |
| | | | | Па плану | Выканана і прынята | Аб'ем | На суму | На работу | Інш. | Разам | | Число аб'ектаў | Аб'ем |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | | | | | | | | |

## НАЛІЧЧА КАДРАЎ НА КАНЕЦ СПРАВАЗДАЧНАГА МЕСЯЦА

| Назва пасады | Назва спецыяльнасцей | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аграномаў | Трынгулятар | Нівеліроўшчыкаў | Тапографаў | Почваведаў | Геабатанікаў | Меліяратараў | Дарожнікаў | Праектыроўшчыкаў (землеўпарадчыкаў | Картаграфаў | Іншых | Разам |
| Нач. работ ......ч. | | | | | | | | | | | | |
| „ атрадаў ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Прарабаў ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Ст. тэхнік ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Тэхнікаў ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Пам. тэхнік ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Практыкант ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Разам ІТР......ч. | | | | | | | | | | | | |
| **Падсобны персанал** | | | | | | | | | | | | |
| Бухгалтар ......ч. | | | | | | | | | | | | |
| Чарцежнікаў ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| Статыстыкаў ...... „ | | | | | | | | | | | | |
| ...... | | | | | | | | | | | | |
| ...... | | | | | | | | | | | | |
| Разам падс. персан. | | | | | | | | | | | | |
| Усяго ......ч. | | | | | | | | | | | | |

| Затрачана тэхніка-дзён па спецыяльнасці | На работу | Хваробу | Адпачынак | Падр. кадр. | Ваен. зборы | Іншыя | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Праектыроўшчыкаў. . | | | | | | | |
| Даследчыкаў . . . . | | | | | | | |
| Трыенгулятараў. . . | | | | | | | |
| Тапографаў . . . . | | | | | | | |
| Разам . . . | | | | | | | |

Ітогавыя паказчыкі вынікаў:
а) На 1 тэхн.-дзён: выработана прадукц. на ............ руб.
трэба па плану ............ „
б) % выканан. нормы ............ „
в) % укамплект. тэхсіламі ............ „
г) % выканання плана ............ „

*Нач. Райземпартыі:* (*Подпіс*)

„ “ ............ *193* г.

Форма № 2

# ФІНСПРАВАЗДАЧА

Начальніка Земпартыі ................................................ Раёна

**Аддзела землеўпарадкавання і меліярацыі НКЗБ**

за № ..............................

.................................................................................. месяц 1935 г.

## А. РАЗЛІКІ З РАБОТАДАЎЦАМІ ЗА РАБОТЫ 1935 г.

(нарастаючымі ітогамі з пачатку года)

| Назва работадаўцаў | Сума дагавора | Выканана раб. на суму | Прынята работ работадаўцамі | | Паступіла сродкаў ад работадаўцаў | | З дзяржбюджэта |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Усіх на суму | З іх па дзяржбюджэту | Недапл. мінул. гадоў | За работы г/года | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| Соўг.: НК Соўг. НКЗема інш. сіст. . . . | | | | | | | |
| Калгасы і ОРС'ы | | | | | | | |
| К-сы зоны МТС. | | | | | | | |
| К-сы ўне зоны МТС . . . | | | | | | | |
| Аднаасобнікі. . | | | | | | | |
| Уст. і прадпрыемствы . . | | | | | | | |
| Разам . . | | | | | | | |

## Б. ЛІКВІДАЦЫЮ НЕДАПЛАТ ЗА РАБОТЫ МІН(ГАДОЎ) [закончаныя]

(нарастаючымі ітогамі з пачатка года)

| Назва работадаўцаў | Паступіла недаплат |
|---|---|
| | 9 |
| Ад соўгасаў . . . . . . . . | |
| „ калгасаў . . . . . . . . | |
| „ аднаасобнікаў . . . . . . . | |
| „ устаноў і прадпрыемстваў . . . . . | |
| Разам . . . . , | |

## В. СТАНОВІШЧА НЕАДРАБОТАНЫХ І НЕЗВАРОЧАНЫХ ЗАДАТКАЎ І АВАНСАЎ, ПАСТУПІЎШЫХ АД РАБОТАДАЎЦАЎ У ЛІК РАБОТ

| | Астача на нач. мес. | Прыбыло за м-ц | Убыло за месяц | | | Астача на кан. месяца |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Звароча-но наяўнымі | Залічана ў лік работ | Разам | |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | |

## Г. ЗВОДКА ВЫДАТКАЎ, НАЛЕЖАЧЫХ АПЛАЦЕ І ФАНДЗІРАВАННЮ ЗА РАХУНАК САБЕКОШТА РАБОТ СПРАВАЗДАЧНАГА МЕСЯЦА

| №№ п/п | Віды выдаткаў. | Налічана выдаткаў | | | З іх упадаў на віды | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Нак-ладн. | Выт-ворч. | Разам | | | | |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 1 | **Асноўная зарплата** | | | | | | | |
| | Тэхнічн. персан. ІТР | | | | | | | |
| | Дапаможн. персанала | | | | | | | |
| | Разам: . | | | | | | | |
| 2 | Соцстрахаван. % ф. з. | | | | | | | |
| 3 | Утрыманне МК % „ | | | | | | | |
| 4 | Беспрац. надб. зам. сут. і кват. . . | | | | | | | |
| 5 | Раз'езды і камандыр. | | | | | | | |
| 6 | Пашт.-тэлегр. і канц. | | | | | | | |
| 7 | Чарцёжн. матэрыялы | | | | | | | |
| 8 | Матэрыялы для пабудовы гасзнакаў . | | | | | | | |
| 9 | Рабсіла: пешай . . | | | | | | | |
| | коннай . . | | | | | | | |
| | нал. на рабс. | | | | | | | |
| 10 | Лекавая дапамога на вытв. . . . . | | | | | | | |
| 11 | Гаспадарчыя . . . | | | | | | | |
| 12 | Рэзервы і фонды . | | | | | | | |
| | а) Рэзерв. чарг. адпач. % ф. з. . . | | | | | | | |
| | б) Рэзервных. дапам. і за гаснаб. % ф. з. | | | | | | | |
| | в) Рэзерв на рам гасінстр. % ф. к. . | | | | | | | |
| | г) Фонд амартыз. гасінстр. % ф. з. . | | | | | | | |
| | д) Фонд калдаг. % ф. з. . . . . . | | | | | | | |
| | Фонд АЗМ . . . % ф. з. . . . . | | | | | | | |
| | ж) Фонд Адм. Кір. выдатк. % ф. з. . | | | | | | | |
| | Усяго:. . | | | | | | | |

## Д. СТАНОВІШЧА ГРАШОВЫХ СРОДКАЎ ДЛЯ ВЫДАТКАВАННЯ.

Рэштка на нач.| м-ца наяўнымі . . . . ........ руб. ........ кап.
у п|справ. асоб . . . . . ........ руб. — — кап.

Разам: . . ........ руб. ........ кап.

Паступіла за справаздачны месяц:
ад АЗМ . . . . . . . ........ руб. ........ кап.
% б) рах. . . . . . . . ........ руб. ........ кап.
іншыя . . . . . . . ........ руб. ——— кап.

Разам: . . ........ руб. ........ кап.

Усяго на прыходзе . . . ........ руб. ........ кап.

Аплочана выдаткаў за справаздачны м-ц . ........ руб. ........ кап.
Рэштка на нач. м-ца: наяўнымі . . . . ........ руб. ........ кап.
у пад| справ. асоб. . . ........ руб. ........ кап.

Разам: . . . ........ руб. ........ кап

## Е. СТАНОВІШЧА МАТЭРЫЯЛАЎ ДЛЯ НЕАЗНАКАЎ.

Рэштка на нач.| м-ца на . . . . . . . ........ руб. ........ кап.
Паступіла за справаздачны м-ц:
ад АЗМ. . . . . . . . ........ руб. ........ кап.
Набыта непасрэдна . . . ........ руб. ........ кап.

Разам: . . . ........ руб. ........ кап.

Выдаткавана на вытворчасць . . . . . ........ руб. ........ кап.
Рэштка на кан.| месяца на . . . . . . . ........ руб. ........ кап.

*Начальнік* ........ *Райземпартыі* ........
(подпіс)

„........“ ........ 1935 г.

# Пастанова № 149

## Совета Народных Камісараў БССР

*1 лютага* 1935 г. *г. Менск.*

### Аб спрашчэнні сістэмы і скарачэнні форм первічнага ўчота на прадпрыемствах

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 13 студзеня 1935 г. № 73 Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць, што сістэму первічнага ўчота (пералікі і формы ўчота дакумантаў, а таксама інструкцыю да іх) прыстасованую да паасобных галін вытворчасці, зацвярджаюць адпаведныя неаб'яднаныя наркаматы і цэнтральныя ўстановы БССР.

Формы первічнага ўчота і дакумантаў па труду і зарплаце, сабекошту і капітальнаму будаўніцтву распрацоўваюцца неаб'яднанымі наркаматамі і цэнтральнымі ўстановамі і падлягаюць зацверджанню Кіраўніцтвам Народна-гаспадарчага ўчота БССР.

2. Прапанаваць Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага ўчота БССР пры спрашчэнні сістэмы і скарачэнні форм первічнага ўчота выходзіць з наступнага:

а) Формы первічнага ўчота прыстасаваць да ўстаноўленай справаздачнасці і да патрэб аперацыйна-тэхнічнага кіраўніцтва; формы ўчота, якія выходзяць за межы гэтых задач, ліквідаваць;

б) забяспечыць поўны ўчот фактычнага сабекошта прадукцыі і сапастаўленне яго з планавымі заданнямі;

в) разгрузіць інжынерна-тэхнічны персанал ад канцэлярскай работы, абмежаваўшы абавязковыя запісі інжынераў, майстраў, прыемшчыкаў і г. д. толькі непасрэдна працякаючымі з выконваемых імі вытворчых абавязкаў.

Наркаматы абязаны пры давядзенні форм первічнага ўчота да прадпрыемстваў устанавіць цвёрды спіс службовых асоб, на якіх ускладаюцца абавязкі па запаўненню асобных форм;

г) забяспечыць дакументальны ўчот паступленняў, водпуску і выдаткавання матэрыяльных каштоўнасцей, а таксама іх фактычнага выдатка на вытворчасці ў матэрыяльнай бухгалтэрыі, забараніўшы вядзенне паралельнага ўчота на складах, пакінуўшы на апошніх толькі колькасна-натуральны ўчот ярлычнага або картачнага тыпа.

Даручыць наркаматам БССР абавязаць матэрыяльную бухгалтэрыю рэгулярна звяраць кнігі з фактычнай наяўнасцю на складах матэрыялаў;

д) забяспечыць у адносінах учота гатовай прадукцыі арганізацыю аперацыйнага ўчота (тэрміновага), які адлюстраваў бы фізічны аб'ем гэтай прадукцыі шляхам бягучага (штомесячнага) зняцця астаткаў няскончанай вытворчасці.

Пры гэтым своечасова выяўляць брак з тым, каб нягодная прадукцыя не ўлічвалася ў бягучым учоце прадукцыі, а ўключалась у няскончаную вытворчасць;

е) лічыць мэтазгодным у парадку вопыта Наркамату мясцовай прамысловасці ўвесці на невялікай колькасці прадпрыемств выдачу матэрыялаў на аснове план-карт, скарацiўшы выпіску трэбаванняў на кожную выдачу;

ж) спрасціць формы вытворчых заданняў-нарадаў і цэнавых промпланаў;

з) учот вынікаў спаборніцтва, ударніцтва і гаспадарчага разліка весці на падставе адзіных форм учота, не ўтвараючы для гэтага асобай сістэмы дакументацыі.

3. Абавязаць неаб'яднаныя наркаматамі і ведамствамі БССР давесці да прадпрыемств формы першічнага ўчота і дакумантаў, а таксама інструкцыі да іх не пазней 1/IV-35 г.

Абавязаць неаб'яднаныя наркаматы і цэнтральныя ўстановы БССР забяспечыць арганізаваць сістэматычны інструктаж да прадпрыемств па пытанням спрашчэння сістэмы і скарачэння форм першічнага ўчота.

Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага ўчота БССР ускласці кантроль за якасцю правадзімай наркаматамі перабудовы першічнага ўчота.

4. Абавязаць неаб'яднаныя наркаматы і цэнтральныя ўстановы БССР прадставіць у СНК БССР адчоты аб выніках іх работы па перабудове першічнага ўчота да 15/IV-35 г.

Нам. Старшыні Совета
Народных Камісараў БССР *Амбражунас.*

Нам. Кіраўніка Спраў Совета
Народных Камісараў БССР *І. Пятровіч.*

---

СССР
Цэнтральнае Кіраўніцтва
Народна-гаспадарчага ўчота
10/I 1935 г.
№ 09

**КНГУ БССР**

У сувязі з Вашым запытаннем аб парадку ўчота ў сельсоветах хода кантрактацыі растлумачваем наступнае: пастаўкі культур у парадку кантрактацыі ўтвараюцца калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнікамі на падставе спецыяльна заключаемых кантрактацыйных дагавароў. Учот выканання гэтых дагавароў па кожнаму паасобнаму калгасу і аднаасобнай гаспадарцы вядзецца ў адпаведнай нарыхтоўчай арганізацыі, пагэтаму паралельнага ўчота ў сельсоветах хода выканання кантрактацыйных дагавароў весці не патрэбна. Нагляд-жа з боку сельсовета за ходам кантрактацыі

і ўздзейнічанне на неакуратных здатчыкаў утвараецца імі на падставе спісаў неакуратных здатчыкаў, якія (спісы) складаюцца нарыхтоўчай арганізацыяй і дасылаюцца ў сельсовет для прыняцця адпаведных мер уздзейнічання.

Аднак, у паасобных выпадках па вядучым для раёна культурам (напрыклад, хлапок па Сярэдняй Азіі, буракі па Вінніцкай. Кіеўскай і Варонежскай абласцям, лён па Заходняй облас і і БССР і г. д.) сельсоветы, у мэтах узмацнення свайго кантроля за ходам выканання кантрактацыйных дагавароў, могуць завадзіць у сябе і асобны пагаспадарчы ўчот і ў гэтых выпадках павінен быць скарыстаны адзін з нязанятых падраздзелаў у раздзеле 5 кнігі ф. № 3, дзе запісваецца план здачы данай культуры па кантрактацыі і ў далейшым робяцца адзнакі аб ходзе выканання гэтага плана.

Нам. начальніка Цэнтр. Кір-ва
Наргасучота Дзяржплана СССР *Папоў*

Нам. начальніка Цэнтральнай
Учотнай Інспекцыі *Моргенштэрн*

---



НК Земляробства СССР
Учотна-Статыстычны
Аддзел
15 студзеня 1935 г.
№ 201

**Усім НКЗемляробства і Край(обл)зу**

**Адбітак: усім Край(обл.) УНХУ**

**Адбітак: усім аддзялен. Саюзоргучота**

З прычыны затрымкі з узгадненнем інструкцыйных указанняў да форм справаздачнасці па ходу калектывізацыі, гэтыя ўказанні не былі ўключаны ні ў інструкцыю па справаздачнасці сельсоветаў, ні ў інструкцыю па справаздачнасці калгасаў.

Таму край (обл.) ЗУ, па атрыманні далучаемых пры гэтым узораў інструкцый, павінны будуць тэрмінова даць заказ Саюзоргучоту, а апошні надрукаваць гэтыя інструкцыі.

Пры гэтым інструкцыя да бланка справаздачнасці калгасаў можа быць уключана ў агульную інструкцыю па справаздачнасці калгасаў, калі апошняя не надрукавана. Калі-ж ужо надрукавана, то інструкцыйныя ўказанні да бланка справаздачнасці калгасаў аб ходзе калектывізацыі друкуюцца самастойна і рассылаюцца па калгасам, МТС і Райза ў дадатак да агульнай інструкцыі.

Інструкцыйныя ўказанні да бланка справаздачнасці аб ходзе калектывізацыі па сельсоветам павінны быць надрукаваны асобна (бо агульная інструкцыя да сельсовецкай справаздачнасці ўжо надрукавана) і даведзена да кожнага сельсовета і Райза.

Нам. начальніка ЦУНХУ Дзяржппана СССР *Папоў*

Начальнік Учстатаддзела НКЗема СССР *Гегечкоры*

Заг. Бланкавыдавецтвам Саюзоргучота *Сарнэ*





## Інструкцыйныя указанні да запаўнення формы № 10 „Справаздача аб ходзе калектывізацыі“

1. Пры запаўненні справаздачы па форме № 10 трэба ўтвараць праверку справаздач калгасаў, маючых на ўвазе, што лік двароў (сямей і адзіночак), якія састаяць у калгасе на апошняе чысло справаздачнага квартала, павінен раўняцца ліку двароў, састаяўшых у калгасе на апошняе чысло папярэдняга квартала, з дабаўленнем да яго ліку двароў, уступіўшых у калгасы за справаздачны квартал (п. 7), утварыўшыхся пасля раздзела (п. 11) і пасля зліяння (п. 13), за вылікам ліку вышаўшых і выключаных двароў (п. 8) і ліку раздзяліўшыхся і зліўшыхся двароў (п. п. 10 і 12).

Трэба таксама мець на ўвазе, што ў тым выпадку, калі ў калгас уступае не ўся сям'я, а напрыклад толькі сын, то ён усероўна павінен лічыцца за гаспадарку і ўключацца ў п. 7.

2. Справаздачы ў сельсовет (і МТС) аб ходзе калектывізацыі прадстаўляюць толькі сельска-гаспадарчыя калектывы, г. зн. комуны, сельска-гаспадарчыя арцелі і таварыствы па сумеснай (грамадскай) апрацоўцы зямлі (ТОЗ-ы). Такім чынам у п. I справаздачы сельсовета аб ходзе калектывізацыі не ўключаюцца промкалгасы, промарцелі, рыбаловецкія калгасы і іншыя калектывы, якія аб'ядноўваюцца спецыяльнымі прамысловымі, рыбацкімі і інш. саюзамі.

3. У п. 2 „лік сялянскіх гаспадарак, не ўвашоўшых у калгасы“, трэба ўключыць толькі тыя знаходзячыеся на тэрыторыі сельсовета двары, якія займаюцца сельскай гаспадаркай (маюць аб'екты абкладання сельгаспадаткам, хаця-б яны і былі аслабанены ад яго), главы якіх маюць выбарчыя правы.

Такім чынам уп. 2-гі не ўключаюцца: кулацкія гаспадаркі (індывідуальна абкладзеныя), раскулачаныя гаспадаркі (не вастаноўленыя ў выбарчых правах) і іншыя гаспадаркі, главы якіх пазбаўлены выбарчых правоў па другім прычынам; таксама не ўключаюцца ў п. 2 тыя двары (сем'і і адзіночкі), якія не займаюцца сельскай гаспадаркай, г. зн. рабочыя, служачыя, саматужнікі і г. д., не маючыя абкладаемых сельгаспадаткам крыніц прыбытку.

> Заўвага. Гаспадаркі, якія з'яўляюцца членамі промкалгасу, рыбаловецкіх калгасау і т. д., не павінны ўключацца ў лік гаспадарак, не ўвашоўшых у калгасы, хаця-б яны і займаліся сельскай гаспадаркай (з наліччам абкладаемых сельгаспадаткам крыніц прыбытку).

---

## Квартальная справаздача аб калектывізацыі (форма № 1)

1. Справаздача прадстаўляецца калгасамі ў сельсовет, а калгасамі, абслугоўваемымі МТС, акрамя таго і ў МТС—2 студзеня, 2 красавіка, 2 ліпеня і 2 кастрычніка.

2. Справаздача складаецца на падставе запісаў у кнізе „Учот членаў калгаса і іх сямей" (Ф. 35 первічнага учота ў калгасах).

3. У п. 1-м справаздачы трэба паказваць усе калгасныя двары (сем'і адзіночкі), якія лічацца ў кніге учота членаў калгаса на апошняе число справаздачнага квартала, а у п. 2-м усю колькасць працаздольных, якія лічацца ў гэтых дварах на тую-ж дату (уключаючы і часова адсутнічаючых калгаснікаў).

4. Да ліку працаздольных калгаснікаў трэба адносіць членаў калгаса незалежна ад полу і ўзросту, якія (калгаснікі) могуць быць скарыстаны на асноўных работах калгаса.

5. Трэба звярнуць увагу на тое, што ў адрозніванне ад мінулага года ўсе змены ў ліку калгасных двароў (п. 5—11) даюцца не спачатку года, а спачатку справаздачнага квартала. Гэтыя змены даюцца на падставе графы „розныя адзнакі" Ф. № 35 (первічнага ўчота ў калгасах), альбо на падставе спецыяльнай праверкі.

6. Пры запаўненні справаздачы трэба мець на ўвазе, што лік двароў (сямей і адзіночак), якія састаяць у калгасе на апошняе число справаздачнага квартала, павінен раўняцца ліку двароў, састаяўшых у калгасе на апошняе число папярэдняга квартала з дабаўленнем да яго ліку двароў, уступіўшых у калгасы за справаздачны квартал (п. 5), утварыўшыхся пасля раздзела (п. 9) і пасля зліяння (п. 11) за вылікам числа вышаўшых і выключаных двароў (п. 6) і числа раздзяліўшыхся і зліўшыхся двароў (п. 8 і 10).

Трэба таксама мець на ўвазе, што ў тым выпадку, калі ў калгас уступае не ўся сям'я, а напрыклад толькі сын, то ён усё роўна павінен лічыцца за гаспадарку і ўключацца у п. 5.

---

## Загад № 80

### Па цэнтральнаму кіраўніцтву народна-гаспадарчага учота дзяржплана СССР

*2-га лютага 1935 г.*

Мясцовымі органамі ЦУНХУ праведзена работа па даабследванню скончанага у 1933 годзе будаўніцтва і рэгістрацыі пераходзячага на 1934 г. будаўніцтва. Гэта работа выканана

здавальняюча і дала упершыню матэрыял па 150 тыс. аб‘ектаў, які дае тэхніка-эканамічную характарыстыку нашага будаўніцтва і інш.

За добрую арганізацыю работы, у прыватнасці за дасягненне вялікага ахопу ўчотам аб‘ектаў булаўніцтва, а таксама высокую якасць сабраных матэрыялау і своечасовае іх прадстаўленне ў вышэйстаячыя органы загадваю:

1. Прэміраваць інспектароў НГУ:

а) г. Архангельска (Паўночны край) т. Смірнова
б) Стара-Русінскага раёна (Ленінгр. обласць) т. Цветкова
в) Тульскага раёна (Маскоўск. обласць.) т. Паўлоўскага
г) Кастрамы (Іванаўская обласць) т. Зверава
д) г. Владзіміра „ „ т. Цітова
е) Чэльпінскага раёна (Татарская рэсп.) т. Кібіякова
ж) Асбестоўскага раёна (Свердлоўская обласць) т. Цюленева
з) Чэрэмхоўскага района (Сібірск. край) т. Берлаева
і) Кармянскага раёна (БССР) т. Караткевіча
к) Бурзульскага раёна (АМССР) т. Касцюка—у размеры 200 руб. кожнага.

2. За добрую арганізацыю работы па рэгістрацыі будаўніцтва, выразіўшуюся ў ахопе аб‘ектаў, а таксама за добрую якасць матэрыялаў і іх шыфроўку і за своечасовае іх прадстаўленне у ЦУНХУ—прэміраваць Нач. сектароў уч. буд-ва УНХУ:

а) Сталінгр. края т. Юдоўскага у размеры 350 р.
б) Армянскай ССР т. Саркісяна—350 руб.
в) Чувашскай ССР т. Пурлушкіна—300 руб.
г) Усх. Сіб. Края т. Фефелава—300 руб.
д) Вінніцкай обл. т. Кржыжаноўскага—300 руб.
е) Паўночнага края т. Івановіча—250 руб.
ж) Заладнай обласці т. Паўлюкова—250 руб.
з) г. Харкава т. Ерухімовіча—250 руб.
і) Адэскай обласці—Кабанава—250 руб.
к) АМССР—т. Гойхермана—200 руб.
л) Каракалпакскай АССР т. Кімберга—200 руб.

3. За добрую якасць прадстаўленых матэрыялаў абвяшчаю падзяку:

а) Нач. сектара учота буд-ва УНХУ Ленінгр. обласці т. Дольнікаву
б) Нач. сектара учота пром і кап. буд-ва УНХУ БССР т. Мохарту
в) Нач. сектара учота буд-ва УНХУ Таджыкск. ССР т. Літоўкіну

4. У сувязі з палепшаннем хода работ па рэгістрацыі будаўніцтва па Днепроўскай області, па хадайніцтву начальніка УНХУ Днепроўскай області т. Трыядыяна і сектара учота капітальных работ ЦУНХУ—адмяніць вымову, аб'яўленую загадам па ЦУНХУ за № 231 ад 10 жніўня 1934 г. начальніку сектара учота будаўніцтва УНХУ Днепроўскай області т. Грынеру.

5. За добрую работу па арганізацыі і правядзенню рэгістрацыі будаўніцтва—прэміраваць ст. эканаміста групы рэгістрацыі будаўніцтва сектара ўчота капітальных работ і будаўніцтва ЦУНХУ т. Чаплік у размеры месячнага аклада заработнай платы.

6. Адзначаю УНХУ, якія не справіліся з работай па правядзенню рэгістрацыі будаўніцтва, у звязку з чым ахоп будаўніцтва, рэгістрацыяй аказаўся вельмі нізкім, матэрыял дэфектным і прадстаўленым з вялікім спазненнем:

а) УНХУ Сяр.-Волжскага края (нач. т. Меламед).
б) УНХУ Казакскай АССР (нач. т. Саматау).
в) УНХУ ДВК (нач. т. Ір).
г) УНХУ Дагестанскай АССР (нач. т. Кардюкоў).

Паказваю начальнікам пералічаных УНХУ на іх недапушчальную бяздзейнасць у справе правядзення рэгістрацыі будаўніцтва і абавязваю іх пры правядзенні рэгістрацыі будаўніцтва ў 1935 годзе выправіць дэфекты гэтай работы, якія мелі месца ў 1934 годзе.

Нам. начальніка цэнтр. кіраўніцтва народнагаспадарчага ўчота дзяржплана СССР—*Папоў.*

---

## Загад № 75

### Па кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР—

*ад 21 лютага 1935 г.*

§ 1.

Учот будаўніцтва 1934 г. па БССР праведзен значна лепей, чым у мінулым годзе, гэта паказвае, што большая частка раённых інспектароў справілася з гэтай работай здавальняюча.

§ 2.

З ліку лепшых інспектур па арганізацыі работы па ўчоту будаўніцтва 1934 г. прэміраваць інспектароў НГУ Бешанковіцкага р-на т. Кулакоўскага і Чырвона-Слабодскага р-на т. Лукашэвіча па 100 р. кожнага—за добрую якасць і своечасовае прадстаўленне матэрыялаў.

§ 3.

Да ліку райінспектароў, не справіўшыхся з работай па рэгістрацыі буд-ва, у выніку чаго ахоп буд-ва рэгістрацыяй аказаўся вельмі нізкі, падлягаюць: Бярэзіна, Дуброўна, Нароўля, Рагачоў, Лiозна, Сіроціна, Асвея, Расоны, Сенно і Заслаўль.

Райінспектароў пералічаных раёнаў абавязваю пры правядзенні рэгістрацыі буд-ва ў 1935 г. выправіць усе недахопы гэтай работы, меўшыя месца ў 1934 г.

§ 4.

Адзначыць работу т. Кармалітава, які забяспечыў добрую арганізацыю работы па ўчоту буд-ва галоўным чынам у адносіне якасці сабранага матэрыяла, як гэта было адзначана па загаду ЦУНХУ СССР.

Нам. нач. КНГУ БССР *Кацнельсон.*

---

## Загад № 41

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

*ад 4-га лютага 1934 г.*

§ 1.

Вытвараным кантролем паступіўшых у Кіраўніцтва ад Касцюковіцкай інспектуры „ежемесячных ведомостей отсылки вторых экземпляров актов гражданского состояния“ форма № 8—1 за снежань м-ц 1934 г. устаноўлена, што па 8-мі сельсоветам раёна ўнесены паказчыкі па натуральнаму руху насельніцтва папярэдняга месяца, г. зн. па гэтым сельсоветам у ведамасць за снежань м-ц уключаны яшчэ раз адрыўныя экземпляры актаў грамадзянскага становішча з тымі-жа нумарамі і з тымі-жа паказчыкамі, якія ўжо былі паказаны ў ф. № 8—1 за лістапад месяц 1934 г.

Такое запаўненне ведамасці з'яўляецца не чым іншым, як грубай падтасоўкай лічбаў і прамым очкаўціравацельствам.

§ 2.

Статыстыка т. Кавалёва, склаўшага гэту ведамасць— аддаць пад суд. Прыняць да ведама заяву райінспектара т. Лугаўцова, што т. Кавалёў з работы ў райінспектуры знят.

§ 3.

Тав. Лугаўцову стаўлю на від няўважлівы падбор работнікаў у інспектуры і адсутнасць належнага кантролю за іх работай.

Начальнік КНГУ БССР *Владзімірскі*

## Загад № 49

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Учота БССР

*ад 10 лютага 1935 г.*

Спецыяльным выездам адказнага работніка Кіраўніцтва для правядзення праверкі становішча работы Клімавіцкай Інспектуры, якая на працягу 1934 г. знаходзілася 10 месяцаў у 4-й катэгорыі, высветлена наступнае:

а) інструктар-статыстык т. Сініцкі як за час работы да прызначэння інспэктара, гэтак і ў час работы прызначанага інспектара, які працуе 2 месяцы, сабаціраваў выкананне распараджэння Кіраўніцтва і ўказанні райінспектара;

б) справы інспектуры знаходзяцца ў хаотычным становішчы;

в) первічны учот у Гусарскім і Судзілаўскім с/советах не заведзен;

г) зрыў такіх работ як напрыклад: звесткі аб колькасці персаналу і фондаў зарплаты па апарату РВК (гэты матэрыял быў атрыман нашым прадстаўніком на працягу 15 мінут, а т. Сініцкі гэтага матэрыялу не паклапаціўся атрымаць і адаслаць Кіраўніцтву на працягу цэлага году);

д) штодзеннае спазненне на работу і ўход з работы ў час працы па асабістым справам;

е) інструктар па бюджэтам т. Кашура за ўвесь 1934 г. не выплачваў абследуемым калгаснікам належачыя ім сумы, занімаўся п'янствам.

Паказаныя факты атрымаліся ў выніку разлажэння і сістэматычнага сабатажа з боку Сініцкага і адсутнасці дастатковай праверкі за выкананнем з боку інспектара т. Давыдава.

Для знішчэння ганебнага становішча ў Клімавіцкай Інспектуры загадваю:

1. Неадкладна зняць з работы інструктара-статыстыка Сініцкага як разлажыўшагася элемента і зрыўшчыка работы з забараненнем яму працаваць у органах Наргасучота.

2. Зняць з работы і аддаць пад суд інструктара па бюджэтам Кашура.

3. Абвясціць вымову работніку КНГУ т. Дубовіку, які прабыў у Клімавічах 2 тыдні спецыяльна па рабоце бюджэтаў і не выявіў дрэннай работы інструктара па бюджэтам.

4. Указаць райінспектару тав. Давыдаву на неабходнасць сістэматычнага кантроля за выкананнем работнікамі інспектуры яго ўказанняў і распараджэнняў КНГУ.

5. Указаць усім райінспектурам Наргасучота БССР, што факты, выяўленыя ў Клімавіцкай інспектуры, сігналізуюць аб

неабходнасці узмацнення з боку райінспектароў кантроля за ыкананнем даручанай імі работы і ачысткі райінспектур ад чуждых і разлажыўшыхся элементаў у апараце раённых і ўчастковых інспектур.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі*

---

## Загад № 74

## Па Кіраўніцтву Наргасучота БССР

*ад 21/II 1935 г.*

Пры прыемцы раённых ітогаў студзеньскага 1935 г. перапісу жывёлы высветлена, што ў Сенненскім і Лепельскім р-нах мела месца грубае, мяжуючае з злачынствам, парушэнне оргплана перапісу жывёлы і інструкцыі кантрольных абходаў. У Сенненскім р-не жывёла, выяўленая кантрольнымі абходамі, была ўключана ў сельсовецкія і раённыя ітогі, чым створана была пагроза немагчымасці скарыстання вынікаў кантрольных абходаў для ўстанаўлення канчатковай лічбы пагалоў'я жывёлы па раёну.

У Лепельскім р-не, наперакор зусім яскравым устаноўкам оргплана перапісу жывелы, пасля правядзення кантрольных абходаў была праведзена масавая праверка жывёлы па р-ну і вынікі праверкі ўключаны ў с/совецкія і раённыя ітогі. У выніку, кантрольныя абходы па Лепельскаму р-ну фактычна не праведзены.

Выходзячы з вышэйпаказанага загадваю:

1.

Кіраўніку перапісу жывёлы па Сенненскаму р-ну т. Камарову і нам. кіраўніка перапісу жывёлыт. Арэшкевічу (работнік учотн. інспекцыі КНГУ) і кіраўніку перапісу жывелы па Лепельскаму р-ну т. Бушанавай абвясціць суровую вымову і папярэдзіць, што пры паўтарэнні парушэнняў з іх боку арганізацыйных і мэтадалагічных установак пры правядзенні учотна-статыстычных работ, яны будуць зняты з працы і прыцягнуты да судовай крымінальнай адказнасці.

2.

Звярнуць увагу ўсіх раенных інспектароў Наргасучота і ўсіх работнікаў інспектур на недапушчальнасць якіх бы та ні была адступленняў ад арганізацыйных і метадалагічных установак пры правядзенні і апрацоўцы ўчотна-статыстычных работ.

Нач. Кір. Наргасучота БССР *Владзімірскі*

## Усім райінспектарам Наргасучота

Згодна пастановы СНК СССР ад 1/XI 1934 г. на органы ЦУНХУ ускладзена правядзенне Ўсесаюзнага перапісу гандлю ў 1935 годзе. Перапіс пачнецца 15/IV 1935 г.

Гандлёваму перапісу падлягаюць усе прадпрыемствы і кадры гуртовых і раздробных гандлёвых арганізацый цэнтральнага і мясцовага значэння, гандлюючыя прадметамі шырспажыву, прадметамі вытворча-гаспадарчага абіходу і харчовымі прадуктамі, якія дзейнічаюць на 15/IV 1935 г.

Перапісу не падлягаюць прадпрыемствы грамадскага харчавання, прадпрыемствы па нарыхтоўкам усіх арганізацый, маючых асноўнай сваёй дзейнасцю нарыхтоўчую работу (Заготзерно, Заготлен, і т. д.) прадпрыемствы органаў снабжэння сродкамі вытворчасці (Белдзяржснаб, Белсельгасснаб) фабрычныя склады і склады транспартных арганізацый.

Аб'ектамі перапісу ў раздробным гандлю з'яўляецца магазін, крама, аптэка, ларок, кіоск, склад па продажу дроў і ўгля дробнымі партыямі для хатня-гаспадарчага абіходу; сельпо, Райсаюзы, ОРС, Гарпо, ЦРК і ўсе звенні кіраўніцтва раздробнага гандлю. У гуртовым гандлі аб'ектам з'яўляюцца: 1) гандлёвая база (выхадная, прыфабрычная, рэспубліканская, міжраённая, раённая), як гандлёвых арганізацый, так і гандлёвых аб'яднанняў у прамысловасці, 2) склады гандлёвых баз і райсаюзаў. Перасоўваючаяся і разносная раздробная сетка (павозкі і інш.) перапісваюцца разам з тым гандлёвым прадпрыемствам, да якога яны прымацаваны і самастойнымі аб'ектамі перапісу не з'яўляюцца (вагоны-крамы перапісу падлягаюць).

Аб'ектам перапісу гандлёвых кадраў з'яўляецца служачы і рабочы заняты на пастаяннай ці часовай рабоце ў любым звяне пералічаных вышэй аб'ектаў перапісу. (Часовыя працаўнікі, занятыя на тэрмін менш 15 дзён, перапісу не падлягаюць).

Устанаўленнем аб'ектаў перапісу і пачынаецца падрыхтоўчая праца да гандлёвага перапісу. Абавязкам раённага і горінспектара Наргасучота пры гэтым з'яўляецца:

а) Не пазней 25/II 1935 г. інспектар атрымлівае ў райнунгандлю спіс гандлёвых арганізацый, дзейнічаючых на тэрыторыі данага раёна з указаннем іх месца знаходжання, звярае іх з папярэднімі спісамі, атрыманымі ад Кіраўніцтва Наргасучота БССР і складае канчатковы спіс гандлёвых арганізацый раёна, падлягаючых перапісу (копія адносіны Наркамунугандлю райнунгандлям, а таксама папярэдні спіс гандлёвых арганізацый, устаноўленых у КНГУ па Вашаму раёну, пры гэтым далучаецца.

б) На падставе ўдасканаленага спісу арганізацый райінспектар атрымлівае ў адпаведных гандлюючых арганізацыях спісы іх гандлёвых прадпрыемстваў, якія дзейнічаюць на 1-е сакавіка

1935 г. з указаннем іх месцазнаходжання, прозвішча кіраўніка і ліку занятых у іх працаўнікоў па кожнаму аб'екту перапісу. (Уважліва прачытайце, што патрэбна лічыць аб'ектам перапісу).

в) Па сканчэнню прац, пералічаных у раздзеле „а" і „б", інспектар разбівае ўсе гандлёвыя арганізацыі і гандлёвыя прадпрыемствы на перапісныя ўчасткі і на сяле дасылае іх участковым інспектарам, а ў горадзе ўстанаўляе патрэбную колькасць працаўнікоў на момант перапісу на паасобных участках.

Падкрэсліваем, што ў складаемым Вамі згодна ўказанняў п. „б" спісу аб'ектаў перапісу павінны быць змешчаны кожны аб'ект перапісу ў паасобку таму, што на падставе гэтага спісу Вам патрэбна будзе ўстанавіць перапісныя ўчасткі і перад пачаткам перапісу ўручыць гандлёвым прадпрыемствам і арганізацыям бланкі перапісу; пры гэтым усе падлягаючыя перапісу аб'екты павінны быць разбіты ў спісу асобна па райцэнтру і асобна па астатняй частцы раёна.

Уся праца па вызначэнню аб'ектаў перапісу павінна быць скончана да 5/III 1935 г., пасля чаго складзеныя спісы аб'ектаў перапісу райінспектура ў копіі дасылае ў сектар учота савецкага гандлю КНГУ БССР.

Начальнік сектара ўчота сов. гандлю КНГУ БССР

*Мізевіч*

БССР
Народны Камісарыят
Унутранага гандлю
„НАРКАМУНУГАНДАЛЬ"

14/II 1935 г.
№ 15-п

г. Менск

*Копія:*

**Горрайунугандлям.**

На падставе пастановы СНК СССР у красавіку месяцы будзе праведзен Усесаюзны гандлёвы перапіс усіх прадпрыемстваў і кадраў гандлёвых арганізацый.

Згодна распараджэння Наркамунугандля СССР ад 27/I 1935 г. за № 1519. аддзелы ўнутгандля на месцах павінны забяспечыць на працягу лютага месяца мясцовыя органы УНХУ спісамі ўсіх гандлюючых арганізацый, дзейнічаючых на тэрыторыі данага раёна.

Прапануецца не пазней 25 лютага гг. скласці і перадаць мясцовым інспектарам НГУчота паказаныя спісы, а копіі апошніх даслаць Наркамунугандлю.

Нам. Наркамунугандлю БССР *І. Верба*

Аддзел арганізацыі гандлёвай сеці
і рэгулявання цэн КНГУ БССР *С. Каменецкі*

# II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ.

## Яшчэ раз аб сельсовецкім учоце.

Праведзенная праверка работнікамі Кіраўніцтва Наргасучота ў паасобных раёнах, а таксама атрыманыя паведамленні ад некаторых участковых інспектароў даказваюць, што первічны ўчот у сельсоветах на 1935 г. не заведзен належным чынам.

З паказаных паведамленняў відаць наступнае:

а) у некаторых раёнах кнігі первічнага ўчота разданы не ўсім сельсоветам і райінспектуры не прымаюць ніякіх мер для таго, каб забяспечыць усе сельсоветы патрэбнай колькасцю кніг і форм;

б) у другой частцы раёнаў, дзе ўсе сельсоветы забяспечаны кнігамі і формамі, ёсць такія сельсоветы, якія не прыступілі да іх запаўнення, а ўчастковыя інспектары пры праверцы абмяжоўваюцца канстатацыяй факта, не прымаючы ніякіх захадаў як праз прэзідыум РВК, так і праз судовыя органы для таго, каб прымусіць зрыўшчыкаў учота наладзіць первічны учот і гэтым самым укараніць сапраўдную лічбу.

Толькі ў меншай частцы раёнаў (Талачын, Б-Кашалева і інш.) сельсоветы сапраўды наладзілі первічны ўчот належным чынам.

Паспяховасць своечасовага і дакладнага завядзення первічнага ўчота ў сельсоветах залежыць у першую чаргу і галоўным чынам ад участковых інспектароў Наргасучота і ад праверкі выканання апошнімі з боку райінспектароў.

Там, дзе райінспектар сумеў як след растлумачыць сакратарам сельсоветаў важнасць правільнага завядзення первічнага учота і ўзняць гэтае пытанне на прэзідыуме РВК, а таксама правільна кіруе работай участковых інспектароў, там безумоўна забяспечана справа первічнага учота і адсюль і забяспечаны правільныя дадзеныя справаздачнасці.

Але, нажаль, не усе райінспектуры і участковыя інспектары зразумелі гэтую справу, забываючы, што ужо прайшлі і 2 м-цы 1935 года і калі прапусціць яшчэ некаторы час, то справа первічнага учота зусім будзе сорвана.

Неабходна ўсім райінспектарам безакладна асабіста і праз участковых інспектароў праверыць усе без выключэння сель-

советы раёна, як заведзен учот, ці забяспечаны сельсоветы кнігамі і формамі па лініі Райза, Райфа і іншых аддзелаў і рашуча рэагаваць на ўсялякія недахопы ў гэтай справе, і ўпершую чаргу праз прэзідыум РВК.

Мы чакаем ад усіх райінспектароў не пазней 10 сакавіка 1935 г. дакладнага матэрыяла аб становішчы першічнага учота ў кожным сельсовеце і аб прынятых мерапрыемствах з боку інспектур.

*Магідаў.*

---

*Аб распрацоўцы і тэрмінах прадстаўлення матэрыялаў перапісу жывёлы другой чаргі*

**Усім раённым інспектарам наргасучота БССР**

У належнасці з оргпланам правядзення студзеньскага 1935 г. перапісу жывёлы і ўстаноўленага парадка і тэрмінаў распрацоўкі матэрыялаў, Бюро Перапісу Жывёлы КНГУ БССР паведамляе:

1. Распрацоўка матэрыялаў перапісу жывёлы **першай чаргі**, аб колькасным складзе жывёлы па студзеньскаму перапісу і кантрольных абходаў закончана і здана КНГУ БССР асабіста раённымі кіраўнікамі перапісу. Апошнімі раёнамі 19/II г. г. здалі вынікі перапісу: Парыцкі, Суражскі, Жыткавіцкі, Быхаўскі, Бярэзінскі. Лагойскі, і Бабруйскі раёны 20 лютага.

2. Раённыя інспектуры Наргасучота павінны прадставіць КНГУ БССР распрацоўку матэрыялаў вынікаў перапісу жывёлы **другой чаргі** ў наступныя тэрміны:

а) вынікі распрацоўкі пароднага склада жывёлы па ф. № 24 **не пазней 25-га лютага;**

б) групіроўку гаспадарак індывідуальнага карыстання жывёлы па ф. 25 **не пазней 1-га сакавіка;**

в) колькасць і падзеж рабочай жывёлы ў калгасах па ф. 26 **не пазней 1-га сакавіка.**

3) Разам з прадстаўленнем вынікаў распрацоўкі па ф. 24 таксама павінны быць прадстаўлены і індывідуальныя карткі на пародзістую і племянную жывёлы па ф. 8--14 з прылажэннем наступнай ведамасці:

Ведамасць індывідуальных картак на жывёлу па

горад / село } падкрэсліць .................................................. раёну.

| Назва сельсоветаў і катэгорый гаспадарак | Колькасць картак | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ф. 8 | Ф. 9 | Ф. 10 | Ф. 11 | Ф. 12 | Ф. 13 | Ф. 14 |
| а) Калгасы . . . . | | | | | | | |
| б) Соўгасы . . | | | | | | | |
| в) Каапгасы . . . . | | | | | | | |
| г) ОРС'ы . . . . . | | | | | | | |
| д) Г-кі ўстаноў і аганізацый . . . . . | | | | | | | |
| е) Калгаснікі . . . . | | | | | | | |
| ж) Аднаасобнікі . . . | | | | | | | |
| з) Рабочыя, служачыя і іншыя . . . . | | | | | | | |
| Усяго . . | | | | | | | |
| Разам па БССР | | | | | | | |

Падкрэсліваем, што індывідуальныя карткі пры дасылцы ў КНГУ БССР павінны быць падабраны строга па сельсоветах, а ў межах сельсоветаў па кожнаму калгасу, кожнай катэгорыі гаспадаркі; акуратна перакладзены, надпісаны на перакладках і звязаны ці ўкладзены ў канверты.

4. К 1-му сакавіка, тымі раёнамі, якія не прадставілі да гэтага часу, ці прадставілі часткова, таксама прадстаўляюцца праверанымі і іспраўленыя блакі на соўгасы і калгасныя таварныя фермы па ф. 6 і 7.

5. Вынікі распрацоўкі пароднага склада жывёлы павінны быць вытвараны з дапамогай работнікаў Райза, згодна ўказання НКЗема і КНГУ і прадстаўлены КНГУ БССР з заключэннем раённага заатэхніка.

6. Бюро перапісу жывёлы звяртае ўвагу раённых інспектур на неабходнасць забеспячэння высокай якасці распрацоўкі матэрыялаў па ф. № 25 „группировка хозяйства по обеспеченности скотом индивидуального пользования“, правільнасць разноскі гаспадарак па катэгорыям і забяспечанасці жывёлай. Акрамя гэтага павінна быць звернута ўвага на ўдасканаленне колькасці кулацкіх гаспадарак у раёне па ф. 25 па строчцы: „13 из них: а) индив. обложенных (кулаков)“.

Па атрыманым матэрыялам з некаторых раёнаў па ф. 25 відаць, што колькасць індывідуальна абкладзеных (кулацкіх)

гаспадарак па перапісу не саўпадае з колькасцю індывідуальна абкладзеных (кулацкіх) гаспадарак, зацверджаных фінорганамі. У мэтах удасканалення колькасці індывідуальна абкладзеных (кулацкіх) гаспадарак у раёне прапануем зверыць даныя перапісу з данымі Райфо і пасля гэтага толькі праводзіць падлік для ф. 25.

7. Усе матэрыялы распрацоўкі **другой чаргі** прадстаўляюцца райінспектурамі НГУ Наргасучоту БССР **заказной бандэроллю па пошце.**

8. Акрамя праграмы распрацоўкі матэрыялаў перапісу жывёлы для КНГУ БССР, раённыя інспектуры НГУ, для патрэб райарганізацый па складанню плана развіцця жывёлагадоўлі на 1935 г. распрацоўваюць таксама матэрыялы па ф. ф. 20—23, 27.

9. Усе матэрыялы перапісу жывёлы па ф. ф. 1, 2 ,3 (а, б, в) 4, 6, 7 і зводкі 16, 17, 18, 19 і 20—27 у копіях павінны быць сістэматызіраваны і ў акуратным парадку захоўвацца ў інспектурах Наргасучота.

Нам. начальніка КНГУ БССР *Голант.*

Начальнік бюро перапісу жывёлы КНГУ БССР *Арцемкоў*

---

## *Прыёмка раённых ітогаў перапісу жывёлы першай чаргі закончана*

1. Прыёмка раённых ітогаў перапісу жывёлы **першай чаргі** закончана 20 лютага. Райінспектурамі раённыя ітогі прадстаўлены, у параўнанні з вызначаным па плану часам, у наступныя тэрміны:

| Назва раёнаў | Тэрмін прадстаўлення | | Назва раёнаў | Тэрмін прадстаўлення | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Па плану | Фактычны | | Па плану | Фактычны |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 1. Чырвона-Слабодскі . . . | 18/I | 25/I | 12. Талачынскі . | 25/I | 1/II |
| 2. Менскі (горад) | 19/I | 22/I | 13. Аршанскі . . | 26/I | 29/I |
| 3. Чэрвенскі . | 22/I | 26/I | 14. Касцюковіцкі . | 26/I | 1/II |
| 4. Тураўскі . . | 23/I | 27/I | 15. Любаньскі . | 26/I | 29/I |
| 5. Сіроцінскі . | 23/I | 27/I | 16. Плешчаніцкі . | 26/I | 4/II |
| 6. Барысаўскі . | 25/I | 28/I | 17. Ст Дарожскі. | 26/I | 26/I |
| 7. Лоеўскі . . | 25/I | 27/I | 18. Старобінскі . | 26/I | 5/I |
| 8. Прапойскі . | 25/I | 27/I | 19. Церахоўскі . | 26/I | 13/II |
| 9. Гомельскі . . | 25/I | 3/II | 20. Чачэрскі . . | 26/I | 31/I |
| 10. Парыцкі . . | 25/I | 14/II | 21. Бабруйскі . . | 27/I | 16/II |
| 11. Рэчыцкі . . | 25/I | 27/I | 22. Бягомльскі . | 27/I | 31/I |
| | | | 23. Бялыніцкі . | 27/I | 27/I |

| Назва раёнаў | Тэрмін прадстаўлення | | Назва раёнаў | Тэрмін прадстаўлення | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Па плану | Фактычны | | Па плану | Фактычны |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 7 |
| 24. Хойніцкі | 27/I | 6/II | 51. Дубровенскі | 29/I | 29/I |
| 25. Кармянскі | 27/I | 27/I | 52. Мозырскі | 29/I | 1/II |
| 26. Копыльскі | 27/I | 5/II | 53. Асіпавіцкі | 30/I | 4/II |
| 27. Лезнянскі | 27/I | 5/II | 54. Бешанковіцкі | 30/I | 4/II |
| 28. Горацкі | 27/I | 30/I | 55. Жыткавіцкі | 30/I | 15/II |
| 29. Крычаўскі | 27/I | 2/II | 56. Заслаўскі | 30/I | 5/II |
| 30. Расонскі | 27/I | 30/I | 57. Камарынскі | 30/I | 1/II |
| 31. Брагінскі | 3/II | 1/II | 58. Чэрыкаўскі | 30/I | 30/I |
| 32. Лагойскі | 3/II | 15/II | 59. Шклоўскі | 30/I | 3/II |
| 33. Лепельскі | 3/II | 10/II | 60. Веткаўскі | 1/II | 1/II |
| 34. Смалявіцкі | 3/II | 3/I | 61. Гарадоцкі | 1/II | 4/II |
| 35. Ушацкі | 3/II | 4/I | 62. Дзержынскі | 1/II | 5/II |
| 36. Сененскі | 3/II | 3/II | 63. Мсціслаўскі | 1/II | 5/II |
| 37. Лельчыцкі | 3/II | 3/I | 64. Нараўлянскі | 1/II | 7/II |
| 38. Магілеўскі | 28/I | 7/III | 65. Пухавіцкі | 1/II | 1/II |
| 39. Менскі (раён). | 28/I | 29/I | 66. Чашніцкі | 1/II | 8/II |
| 40. Петрыкаўскі | 28/I | 6/II | 67. Ельскі | 2/II | 2/II |
| 41. Уваравіцкі | 28/I | 10/II | 68. Жлобінскі | 2/II | 5/II |
| 42. Слуцкі | 28/I | 31/I | 69. Клімавіцкі | 2/II | 3/II |
| 43. Уздзенскі | 28/I | 29/I | 70. Клічаўскі | 2/II | 2/II |
| 44. Полацкі | 28/I | 11/II | 71. Крупскі | 2/II | 3/II |
| 45. Быхаўскі | 28/I | 15/II | 72. Б. Кашалеўскі | 4/II | 9/II |
| 46. Асвейскі | 29/I | 29/II | 73. Рагачоўскі | 4/II | 8/II |
| 47. Бярэзінскі | 29/I | 13//I | 74. Суражскі | 4/II | 14/II |
| 48. Віцебскі | 28/I | 29/I | 75. Чаускі | 4/II | 6/II |
| 49. Глускі | 29/I | 30/I | 76. Краснапольскі | 4/II | 30/I |
| 50. Дрысенскі | 29/I | 1/II | | | |

2. Груба парушылі оргплан і інструкцыю кантрольных абходаў: Сенненскі раён (інспектар т. Камароў і Нам. кіраўніка перапісу жывёлы т. Арашкевіч), уключыўшы выяўленую кантрольнымі абходамі жывёлу у зводкі ф. 16 і 17; Лепельскі раён (інспектар т. Бушанава) пасля кантрольных абходаў правёў масавую праверку жывелы па раёну і даныя праверкі ўключыў у ф. 16 і 17, чым фактычна сарваў кантрольныя абходы па раёну.

3. Не забяспечылі належнай якасці прыёмкі і апрацоўкі матэрыялаў перапісў жывёлы раёны: Магілеўскі (інспектар т. Зумент), Камарынскі (Нам. кір. перапісу т. Позняк), Кармянскі (кір. перапісу т. Міхасеў і нам. кір. перапісу т. Караткевіч), Пухавіцкі (інспектар т. Грыб).

Нач. Бюро перапісу жывёлы
КНГУ БССР *Арцемкоў*

# Адначасовы учот колькасці персаналу і фондаў заработнай платы

На падставе пастановы ЦУНХУ Дзяржплана СССР да 27/І 1935 г. за № 17/7-б па прыкладу мінулага году, будзе праведзен аднaчасовы ўчот колькасці персаналу і фондаў заработнай платы за сакавік месяц 1935 г.

Мэта учоту: 1. Даць вычарпальны спіс усіх прадпрыемств і ўстаноў па БССР.

2. Устанавіць поўныя даныя аб колькасці персаналу і фондах заработнай платы і сярэднім узроўню заработнай платы па галінам працы і катэгорыям персаналу ў разрэз пасобных наркаматаў, ведамств, а таксама і ў разрэз раёнаў.

Учот вытвараецца па формам, зацверджаным для бягучай справаздачнасці па труду.

Падрыхтоўчая праца да учота патрабуе ад гор. і райінспектур складання спісу па адпаведнай форме ўсіх прадпрыемств і устаноў, знаходзячыхся на тэрыторыі гораду, раёну.

Пры чым асобна складаецца спіс 1) на прадпрыемства (установы) раённага і ніжэй раённага падпарадкавання і 2) на прадпрыемства (установы) Саюзнага і Рэспубліканскага падпарадкавання.

Складзеныя і праверaныя спісы павінны быць адасланы КНГУ БССР 1/ІІІ 1935 г. Збор матэрыялу (справаздачных картак ад устаноў, прадпрыемств) за сакавік месяц па раёну, гораду павінна скончыцца 20/IV-35 г.

Зварочваецца ўвага гор. райінспектур на выключна важнае значэнне вынікаў адначасовага учоту колькасці персаналу і фондаў заработнай платы для мэтаў—народна-гаспадарчага планавання.

Аднак, матэрыялы учота практычна могуць быць скарыстаны толькі пры ўмове ахопа гэтым учотам усіх без выключэння прадпрыемств і ўстаноў.

Зусім неабходным з'яўляецца своечасовая адсылка гор, райінспектурай спісаў і матэрыялаў КНГУ БССР.

Як да складанню спісаў, так і да збору і праверкі матэрыялу неабходна максімальна прыцягнуць участковых інспектароў.

Наяўнасць апарата ўчастковай інспектуры, а таксама наяўнасць опыта па вытварэнню гэтага учоту за сакавік 1934 г. павінны забяспечыць паспяховае вытварэнне гэтай важнейшай працы усімі гор. і райінспектурамі ў 1935 годзе.

## Некалькі заўваг па ўчоту перыядычных выданняў

Пасля ліквідацыі камітэта па справам друку пры СНК, учот перыядычных выданняў перададзен органам Наргасучота.

Учоту падлягаюць усе газеты і часопісы, за выключэннем нізавых газет прадпрыемстваў і ўстаноў.

Перыядычныя выданні рэспубліканскага значэння адчоты сваі прадстаўляюць непасрэдна ў КНГУ, а раенныя—праз раённыя інспектуры. Адчотнасць квартальная і павінна быць прадстаўлена не пазней як праз 25 дзён па сканчэнні квартала.

Прайшоў год як адчотнасць гэта ўведзена і патрэбна адзначыць, што здавальняючых вынікаў як па паўнаце ахопа, так і па якасці атрыманых адчотаў мы ў 1934 годзе не дабіліся.

Ад многіх раённых газет мы атрымалі адчоты не за ўсе кварталы 1934 г. (Асіпавічы, Бягомль, Буда-Кашалева, Горкі, Дуброўна, Камарына, Крупкі і інш.) ад многіх-з большым спазненнем, альбо дэфектныя адчоты, якіх нельга ўключыць у разработку.

Рэдакцыі многіх раённых газет ніяк не могуць усведаміць, што тыраж за адчотны квартал—гэта ёсць сума экземпляраў усіх нумароў, выпушчаных за квартал. Акрамя гэтага многія рэдакцыі пры дачы звестак аб выдатках даюць іх не па рэдакцыі, а і па друкарні, чым павялічваюць выдаткі па рэдакцыі.

З IV квартала 1934 г. ЦКНГУ уведзена спрошчаная форма адчотнасці перыядычных выданняў і надрукаваны інструкцыі па запаўненню адчота. Інструкцыі гэтыя маюцца ў рэдакцыях, а таксама ў раённых Інспектурах наргасучота.

Пачынаючы з 1935 г. інспектары павінны звярнуць увагу на гэты ўчастак учота культурнага будаўніцтва і арганізаваць яго як належыць.

*Гольдберг.*

---

## Складанне эканоміка-статыстычнага даведніка на горад (паспарт горада)

Работа па складанню паспартоў па гарадам ставілася намі па Бабруйску, Барысаву, Віцебску, Гомелю, Магілеву, Менску і Оршы.

Асноўнай мэтай паспарта з'яўляецца—даць матэрыял для вывучэння гарадоў у свеце задач, пастаўленых другой пяцігодкай, а не служыць пераважна статыстычным даведнікам.

У гэтым напрамку павінны весціся работы па паспартызацыі. У работах па паспартызацыі гарадоў за 1932 і 1933 гг. наглядаліся значныя недахопы.

Не гледзячы на ўпаўне дастатковае фінансаванне гэтай работы, КНГУ БССР не атрымала к тэрміну ніводнага паспарту.

Па гораду Бабруйску паспарт нам не даслалі, і ў апошнія дні складання зводкі па паспартызацыі для ЦУНХУ нам прышлося камандыраваць работніка для складання паспарта.

У атрыманых паспартах аказалася шмат няправільных лічбаў, няувязак адных дадзенных з другімі і шчотных памылак (асабліва па паспартам Барысава і Оршы).

Усе гэтыя недахопы тлумачацца тым, што інспектары не прыдавалі гэтай рабоце належнага значэння.

Работа па паспартызацыі працягваецца і на 1935 г. (запаўненне звестак за 1934 г.)

Па атрыманні ад нас выпраўленых паспартоў неабходна будзе зараз-жа зацвердзіць іх прэзыдыумам Горсовета і прыступіць да запаўнення данымі за 1934 год.

Інспектарам неабходна ўдзяліць гэтай рабоце больш увагі.

Работа гэта за 1935 г. (запаўненне звестак за 1934 г.) фінансуецца ў тых-жа размерах, як і ў мінулым годзе; аднак, аплаце падлягаюць толькі тыя паспарты, якія будуць запоўнены па ўсім раздзелам, праверany і прыняты намі.

Тэрмін сканчэння работ па запаўненню інспектарамі раздзелаў паспарта за 1934 г. вызначан І-га красавіка 1935 г.

*Ліўшыц.*

## Не паслабляць барацьбы супроць увядзення незацверджаных форм.

Віцебскай інспектурай Наргасучота у Горздраве выяўлена, што НКАховы Здароўя БССР 29 студзеня 1935 г. за № 320 спушчаны ўсім гор і райздравам незацверджаныя ЦУНХУ 4 формы для прадстаўлення звестак аб колькасным і якасным складзе ўсяго вышэйшага, сярэдняга і ніжэйшага медперсанала ў раёне.

Атрымаўшы ад Віцебскай інспектуры Наргасучота паведамленне аб выяўленых у Горздраве незацверджаных формах, КНГУ БССР зараз-жа рэагавала на гэты факт і дабілася таго, што НКАховы Здароўя 10-га лютага г. г. было паслана ўсім рай і горздравам паведамленне аб адмене прадстаўлення звестак, запатрабаваных 29 студзеня г. г. за № 320.

З свайго боку Віцебская інспектура Наргасучота аб выяўленым факце збора райздравам звестак па незацверджаным формам паставіла пытанне перад Віцебскім Горсоветам, у выніку чаго Горсоветам выдадзен 11-га лютага г. г. загад за № 12.

Змяшчаючы ніжэй распараджэнне НКАховы Здароўя ад 10 лютага г. г. і загад № 12 па Віцебскаму Горсовету ад 11 лютага г. г., зварачваем увагу ўсіх райінспектур Наргасучота на неабходнасць самай рашучай барацьбы супроць парушэнняў учотнай дысцыпліны.

*К. Б.*

*10 лютага 1935 года.*

## Горрайздравам

НКАЗ паведамляе, што прадстаўленне звестак згодна распараджэння НКАЗ аб складанні спісаў мэдпрацаўнікоў па форме № 1-2-3-4 ад 29/I-35 года—адмяняецца.

Нам. Народнага Камісара
Аховы Здароўя *Нейштадт.*

Нам. Старш. ЦК Саюзу
Медсанпрацы *Драчынскі.*

## Загад № 12

## Па Віцебскаму Гарадскому Совету

*Ад 11-га лютага 1935 г.*

§ 1.

За апошні час наглядаюцца выпадкі невыканання пастановы СНК СССР па скарачэнню адчотнасці. Прыкладам гэтага з'яўляецца Горздраў—тав. Мацвееў, які дапусціў выкананне распараджэння НКАховы Здароўя па збору звестак аб колькасным і якасным складзе медработнікаў па прысланым формам Наркамата, а па сутнасці гэтыя формы не зацверджаны ЦУНХУ, на што было патрачана шмат часу, як работнікаў Аддзела, гэтак і машыннага бюро, і работа была скасавана.

Катэгарычна патрабую ад усіх загадчыкаў Аддзелаў выканання пастановы СНК СССР па скарачэнню адчотнасці і ў выпадку невыканання будуць прыняты самыя суровыя меры прыцягнення да адказнасці.

Тав. Шмэтару аб усялякіх выпадках невыканання пастановы СНК СССР аб адчотнасці зараз-жа дакладываць мне.

Кіраўніку спраў Віцгорсовета не дапускаць друкавання форм у машынным бюро без прагляду іх тав. Шмэтарам.

Нам. Старшыні Віцгорсовета *Эстрын.*

Адказны сакратар *Колзунова.*

## Загад № 145

### Па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

*Менск, 27/I 1935 г.*

На падставе пастановы СНК БССР ад 4/IX-34 г. за № 20 прапаную загад па НКАсветы ад 2/VIII-33 г. у частцы (А—3) дасылкі раённымі аддзеламі асветы звестак аб паспяховасці вучняў па форме ПШ—3 адмяніць, абавязаўшы Школьнае Кіраўніцтва НКА ў далейшым спыніць патрабаванне ад РайАНА звестак па вышэй азначанай форме.

Народны Камісар Асветы БССР *Чэрнушэвіч.*

## Пастанова

### Прэзідыума Магілеўскага РВК'а

*Ад 1 лютага 1935 года.*

Улічваючы, што Магілеўскі Хлебакамбінат, ОРС торфзавода „Грабянева" і 1-я дзіцячая комуна, упарта з месяца ў месяц не прадстаўляюць своечасова звестак па ўчоту труда і зарплаты, чым затрымліваюць распрацоўку дадзеных і зрываюць своечасовы ўчот,—аштрафаваць дырэктара Хлебакамбіната т. Гурэвіча на 50 руб., бухгалтара 1-й дзіцячай комуны т. Герасімука на 50 руб. і дырэктара ОРС'а торфзавода „Грабянева" т. Мононзона на 50 руб., папярэдзіўшы вышэйпаказаных таварышоў, што ў выпадку далейшага парушэння тэрмінаў прадстаўлення справаздачных звестак па труду і зарплаце, яны будуць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Даручыць Оперсектару Міліцыі пазыскаць штраф.

Гэту пастанову апублікаваць у друку.

Нам. Старшыні РВК *Саракалетаў.*

## Пастанова

### Прэзідыума Лоеўскага РВК

*Ад 9/II—35 г.*

**„Аб першапачатковым вучоце ў с/советах"**

У адпаведнасці з пастановай СНК БССР ад 8/XII-34 г. за № 2008 аб першапачатковым вучоце ў с/сав. Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. У мэтах азнаямлення работнікаў с/сов. с формамі с/сов. вуч. прапанаваць інспектуры народна-гаспадарчага учота пра-

весці 15/II 1935 года нараду сакратароў і рахункаводаў с/сов. сумесна з загадчыкамі аддзелаў РВК.

2. Абавязаць с/советы ўвесці з 1/I-35 года першапачатковую дакументацыю паводле зацверджанага СНК СССР пераліка форм вучота і першапачатковай дакументацыі ў с/советах.

3. Адказнасць за своечасовае правядзенне зацверджанага першапачатковага вучота ўскласці на старшынь с/сов.

4. Прапанаваць інспектуры наргасучоту ўстанавіць сістэматычны нагляд за справідловым увядзеннем першапачатковай дакументацыі ў жыццё і прыцягваць да крым. адказнасці зрыўшчыкаў першапачатковай дакументацыі ў с/совеце.

Старшыня РВК *Новікаў*

Сакратар *Глазко*

---

## Агляд работы райінспектур

(па матэрыялам абследвання)

### Клімавіцкі раён

Клімавіцкая райінспектура Наргасучота на працягу мінулага году сістэматычна не выконвала шэрагу работ (учот фондаў зарплаты па некаторым установам, зрыў тэрмінаў высылкі матэрыялаў па бюджэтам калгаснікаў і інш).

Інспектура сістэматычна не давала адказаў на запытанні КНГУ, аб чым сведчыць шмат маючыхся ў райінспектуры напамінкаў ад усіх сектароў КНГУ.

Справы інспектуры за 1934 г. знаходзяцца ў беспарадачным становішчы, а на 1935 г. зусім не заведзены.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана не вядзецца і кан'юнктура для кіруючых арганізацый раёна не складаецца.

Первічны учот у Судзілаўскім і Гусарскім сельсоветах не заведзен належным чынам (па Судзілаўскаму с/с часткова заведзена кніга ф. № 3).

Вельмі дрэнна пастаўлена работа па бюджэтам калгаснікаў. Калгаснікі запісаў ня вядуць. Абследванне праводзіцца штомесячна выключна апытаннем. Інструктар па бюджэтам тав. Слепцоў нават не раздаў калгаснікам бланкаў, якія яны павінны запаўняць. Ніякай масавай растлумачальнай работы з калгаснікамі не праводзілася. Інструктар Кашура займаецца п'янкай і сістэматычна зрывае тэрміны выканання работ па бюджэтным запісам. Наведванне калгаснікаў інструктарам праводзіцца адзін раз у месяц, апытанне праводзіцца праз 2—3 тыдні пасля справаздачнага месяца, што значна зніжае якасць матэрыялаў.

Акрамя таго інструктар Кашура на працягу года затрымліваў выплату калгаснікам належнай ім прэміі, прысвоіваўшы гэтыя рошы сабе.

Інспектура працуе без плана. Працдысцыпліна ў інспектуры вельмі слабая, работнікі інспектуры прыходзяць на працу і ўходзяць калі ім уздумаецца.

Інспектура ўключылася у конкурс, але-ж работнікі інспектуры нават аб гэтам не ведалі.

Работнік інспектуры, інструктар-статыстык тав. Сініцкі, маючы стаж статработы каля 12 год і добра ведаючы гэтую галіну работы, сістэматычна не выконваў работ і сабаціраваў распараджэнне КНГУ і райінспектара.

З боку інспектара тав. Давыдава не было належнага кантролю за выкананнем работ супрацоўнікамі інспектуры.

Для знішчэння такога ганебнага становішча спраў у Клімавіцкай райінспектуры з боку КНГУ БССР прыняты належныя мерапрыемствы. Загадам па КНГУ ад 10 лютага 1935 г. № 49, які змяшчаецца ў гэтым бюлетэні, інструктар-статыстык Сініцкі знят з работы ў райінспектуры, як разлажыўшыйся элемент і зрыўшчык работ, з забараненнем яму працаваць у органах Наргасучота. Інструктар па бюджэтам Кашура знят з работы і аддадзены пад суд.

Інспектару тав. Давыдаву паказана на неабходнасць устанаўлення сістэматычнага кантроля за выкананнем супрацоўнікамі райінспектуры даручаных ім работ і распараджэнняў КНГУ.

Прадстаўніком КНГУ праведзена нарада ўчастковых інспектароў разам з работнікамі Клімавіцкай райінспектуры, на якой абгаворана пытанне аб становішчы работы, ходзе выканання конкурса і аб далейшай рабоце.

Факты, выяўленыя у Клімавіцкай інспектуры, сігналізуюць аб неабходнасці ўзмацнення з боку ўсіх райінспектароў кантроля за выкананнем і ачысткі раённых і ўчастковых інспектур ад чуждых і разлажыўшыхся элементаў.

## Прапойскі раён

Першічны ўчот у некаторых сельсоветах пастаўлен дрэнна. У Гіжэўскім і Лапаціцкім сельсоветах пагаспадарчыя кнігі ф. № 2-а, 2-б і 3 запаўняюцца не па ўсім паказчыкам (адсутнічаюць паказчыкі выканання плана па малаку і інш.) Некалькі лепш абстаіць справа з завядзеннем кніг першічнага ўчота ў Прапойскім местачковым совеце.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана вядзецца, але не па ўсім галінам.

Штомесячная кан'юнктура для кіруючых органаў раёна не складаецца.

## Сеннескі раён

Не гледзячы на тое, што штат райінспектуры укамплектаваны поўнасцю (інструктар-статыстык, статыстык, 3 участковых інспектары), маюцца прарывы амаль па ўсім асноўным работам інспектуры.

Такое становішча тлумачыцца тым, што супрацоўнікі райінспектуры працуюць дрэнна і не адчуваюць ніякай адказнасці за дavailable работу. Працдысцыпліна ў апараце райінспектуры слабая. З боку ўчастковых інспектароў наглядаюцца выпадкі невыканання распараджэнняў райінспектара т. Камарова.

Участковыя інспектары не звяртаюць належнай увагі на тое, каб першчны ўчот па новым формам быў заведзен на 1935 г. належным чынам ва ўсіх сельсоветах.

Райінспектару тав. Камарову неабходна ў бліжэйшы час дабіцца рашучага пералому ў рабоце апарата райінспектуры і ўчастковых інспектароў, устанавіць сістэматычны кантроль за выкананнем і ачысціць апарат райінспектуры і ўчастковых інспектур ад разлажыўшыхся элементаў і гультаёў.

## Бабруйскі раён

Штат райінспектуры (райінспектар, эканаміст і 3 інстр.-статыстыкі) дастаткова падрыхтаваны па ўчотна-статыстычнай кваліфікацыі для тэхнічнай распрацоўкі ўчотных матэрыялаў, але недастаткова здольны вытвараць усебакова аналіз прапрацоўваемых матэрыялаў і з боку райінспектара не прымаюцца ніякія меры для павышэння іх кваліфікацыі па вышэйпаказанаму моманту, а самі работнікі інспектуры не цікавяцца гэтым пытаннем.

З паказанай прычыны складаемы штомесячны агляд выканання плана народнай гаспадаркі па раёну вытвараецца ў большай частцы толькі па цэнзавай прамысловасці, а ў некаторых выпадках і па асобным галінам сельскай гаспадаркі. Што датычыцца іншых галін народнай гаспадаркі раёна, то кан'юнктура па ім не толькі не прадстаўляецца кіруючым райарганізацыям, але нават не запаўняюцца адпаведныя табліцы ў сшытку аснаўных паказчыкаў выканання плана, які, да слова кажучы, на 1935 год яшчэ не заведзен.

Матэрыял, прадстаўляемы КНГУ на працягу 1934 года, здавальняючы, але ў большай частцы прадстаўляецца са спазненнем.

Справы на 1935 год не заведзены.

Сістэматызацыя першчнага матэрыяла не праводзіцца, у выніку чаго шафы інспектуры завалены ўсялякім матэрыялам і пры патрэбе атрымаць якую-небудзь даведку, неабходна перарыць значную частку матэрыялаў, што выклікае лішнюю затрату часу і прыводзіць да хаотычнага становішча першчнага матэрыяла.

План работы у 1934 годзе быў даведзен да кожнага работніка, але не ўсе работы плана былі выкананы кожным работнікам паасобку.

Маюцца моманты ў рабоце інспектуры, калі паасобныя работы (пашпарт горада, звесткі выканання плана па саматужнай кааперацыі), даручаюцца іншым работнікам, што безумоўна нельга, дапускаць прынцыпова; адсутнічае нагляд за якасцю выканання гэтых работ.

На працягу 1934 года інспектура разгарнула значную работу па ўцягненню грамадскасці у справу ўчота, як напрыклад, арганізацыя ячэек ВОСУ, арганізацыя курсаў па ўчоту і статыстыцы, прымацаванне бухгальтароў прадпрыемств і ўстаноў да калгасаў, для аказання апошнім практычнай дапамогі ў наладжванні ўчота і г. д., у выніку чаго інспектура карыстаецца аўтарытэтам, но іспектура не здолела замацаваць паказаныя дасягненні і ў канцы 1934 года і пачатку 1935 года гэта работа значна аслабла.

Адным з недапушчальных прарываў у рабоце інспектуры з'яўляецца тое, што на 15 лютага сельскія советы не былі забяспечаны формамі первічнага ўчота, у той час, калі ўчастковыя інспектары укамплектаваны больш-менш здольнымі работнікамі і інспектура атрымала своечасова паказаныя формы.

Адсутнічае сталы кантроль з боку райінспектара за работай участковых інспектароў і кіраўніцтва іх штодзённай работай.

Участковымі інспектарамі не арганізавана ніводнай ячэйкі ВОСУ у калгасах, не вядзецца дзеннік работы і невядома як яны выконваюць свой план работы.

Інспектурай былі праведзены на працягу 1934 года мерапрыемствы па барацьбе за учотную дысцыпліну, але гэтыя мерапрыемствы не рэгіструюцца і невядома, якія вынікі атрымаліся, а таксама адсутнічанне рэгістрацыі пачатых спраў па прыцягненню вінаватых у зрыве ўчотнай дысцыпліны да адказнасці не дае магчымасці інспектуры даводзіць справу да канца.

Што датычыцца кіраўніцтва з боку сектароў КНГУ, то маюцца выпадкі (сектар культуры), калі дасылаюцца інспектуры запытанні не абгрунтаваныя і незразумелыя.

З паказанага бачна, што Бабруйская інспектура мае ўсе магчымасці выйсці ў рады першых інспектур Наргасучота БССР

Перад інспектурай стаяць безадкладна наступныя задачы:

1. Прыступіць да сістэматызацыі первічнага матэрыяла за апошнія два гады.

2. Ускласці адказнасць за вядзенне сшытку „аснаўных пaказчыкаў выканання плана“ па ўсім галінам народнай гаспадаркі на аднаго работніка і складання штомесячнага агляда для кіруючых арганізацый раёна.

3. Праінструктаваць і забяспечыць сельсоветы формамі первічнага ўчота і праверыць іх запаўненне.

4. Завесці справы на 1935 год і скласці план работы з давядзеннем яго да кожнага работніка.

5. Праверыць, якія калгасы не склалі гадавую справаздачу за 1934 год і аказаць ім належную дапамогу.

6. Устанавіць сістэматычны кантроль за работай участковых інспектароў і аказваць ім патрэбную дапамогу.

7. Устанавіць сталую рэгістрацыю спраў па барацьбе за ўчоткую дысцыпліну.

8. Арганізаваць гурток па падвышэнню кваліфікацыі работнікаў інспектуры і ўстанавіць прапрацоўку асобных артыкулаў атрымоўваемай інспектурай літаратуры па пытанням учота.

9. Ажывіць работу ВОСУ па разгортванню практычнай работы паасобных ячэек і арганізацыі новых ячэек у калгасах.

Усе гэтыя мерапрыемствы неабходна правесці пад пунктам выканання ўзятых інспектурай на сябе абавязкаў па конкурсу на лепшую інспектуру.

## Буда-Кашалеўскі раён

Кнігі па первічнаму учоту раздадзены своечасова ўсім сельсоветам і праведзены інструкцыйныя нарады.

Праведзена праверка пастаноўкі первічнага учота ў 7 сельсоветах і ў калгасах у час перапісу жывёлы. У правераных сельсоветах і калгасах учот пастаўлен здавальняюча.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну на 1935 г. не запаўняецца; кан'юнктура не складаецца, але-ж патрэбны матэрыял для раённых арганізацый забяспечваецца.

Райінспектура ўключылася ў конкурс на лепшую райінспектуру і ў асноўным паказчыкі конкурса выконваюцца, за выключэннем 2—3-х паказчыкаў.

Справы на 1935 год заведзены, але-ж знаходзяцца не ў парадку.

Мелі месца выпадкі нядбайных адносін да працы з боку ўчастковага інспектара т. Шаўцова, які, аднак, прызнаў свае памылкі і абяцаў у далейшым не дапушчаць такіх фактаў.

Ячэйка ВОСУ арганізавана але працу разгарнула недастаткова. З боку Нам. Старшыні РВК (т. Канапацкага) і Сакратара РВК (т. Сідорыка) наглядаецца недаацэнка работы райінспектуры, што асабліва выявілася ў час перапісу жывёлы.

## Расонскі раён

План работ за 1934 год у асноўным выканан райінспектурай, але-ж апошняя мае яшчэ некаторую запазычанасць перад КНГУ (форма № 82, па ўчоту працы і зарплаты).

Справы на 1935 год не заведзены.

Райінспектура не уключалася ў конкурс на лепшую інспектуру і ўмоў конкурса не выконвае.

Пры праверцы пастаноўкі первічнага учота ў Альбрэхтоўскім сельсовеце выяўлена, што первічны учот у гэтым сельсовеце пастаўлен дрэнна (у кнігах форма № 3 за 1934 год адсутнічаюць паказчыкі выканання плана па малаку і шэрсці, а ў кнігах ф. 2-а і 2-б не запоўнены раздзелы па нацыянальнасці, жывёле, пасевах і інш.).

Інспектура не займалася праверкай пастаноўкі ўчота ў сель советах і арганізацыях і не вяла барацьбы супроць парушэнняў учотнай дысцыпліны.

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана не запаўняецца і кан'юнктура кіруючым органам раёна не прадстаўляецца.

Ячэйка ВОСУ не арганізавана і райінспектура пытаннем гэтым не займалася.

Штат райінспектуры не ўкамплектованы (няма статыстыка і інструктара па бюджэтным запісам калгаснікаў).

Наглядаюцца выпадкі мабілізацыі райінспектара на работу ў раёне, не звязаную з яго непасрэднай работай.

## Сіроцінскі раён

План работ за 1934 год райінспектурай выканан. Запазычанасць перад сектарамі КНГУ за 1934 год у асноўным ліквідавана (за выключэннем ф. № 82).

Райінспектура ўключылася ў конкурс на лепшую інспектуру і ўмовы конкурса за студзень месяц выкананы.

Праведзена інструкцыйная нарада сакратароў сельсовета па первічнаму учоту; кнігі па первічнаму ўчоту розданы сельсоветам. Аднак, райінспектура праверкай пастаноўкі первічнага ўчота у сельсоветах не займаецца. Пры праверцы ў Пагарэліцкім сельсовеце выяўлена, што ў кнігах ф. № 3 адсутнічаюць паказчыкі аб выкананні планаў на малаку, мясу, шэрсці. У Амбросаўскім сельсовеце кнігі первічнага учота зусім не заведзены,

Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана ў 1934 г. не вялася і не запаўняецца пакуль-што і ў 1935 г.

Справы на 1935 г. у райінспектуры не заведзены.

Пытаннем арганізацыі ячэйкі ВОСУ райінспектура не займалася.

## Чашніцкі раён

План работ за 1934 г. райінспектурай не выканан у тэрмін (маецца запазычанасць па карткам ЗАГС'а і справаздачнасці Райздрава за 1934 год.).

У конкурс на лепшую райінспектуру Чашніцкая райінспектура хаця і ўключылася (заключана соцумова з Лепельскай

райінспектурай), але-ж узаемнай праверкі ўмовы не было. Кніга асноўных паказчыкаў выканання плана па раёну вядзецца, але-ж не ўсе раздзелы запоўнены, хаця матэрыялы і сабраны (аб калектывізацыі, выкананні прамфінплана, па асноўным відам жывёлы). Штомесячныя кан'юнктурныя агляды для кіруючых органаў раёна не складаюцца. Справы на 1935 год у райінспектуры заведзены.

Усе сельсоветы раёна забяспечаны кнігамі і бланкамі першічнага ўчота на 1935 год.

Праверка пастаноўкі першічнага ўчота ў сельсоветах праводзіцца райінспектурай бесспланава. Дрэнна быў пастаўлен першічны ўчот у Лукомльскім сельсовеце, але-ж зараз учот у гэтым сельсовеце наладжан.

Ячэйка ВОСУ да гэтага часу не арганізавана.

---

## Нашы першыя поспехі

Інспектура Наргасучоту Лоеўшчыны ў штодзённай сваёй рабоце нястомна змагаецца за ажыццяўленне ўказанняў партыі і Ураду, за точную палітычна правераную лічбу, за ператварэнне яго ў перадавы раён рэспублікі.

Трэба сказаць, што, выконваючы гэтыя ўказанні, мы дабіліся праўда яшчэ малых поспехаў у пастаноўцы работы інспектуры, хаця раён з адстаючых выходзіць у перадавыя раёны. Узяць хаця-бы такое важнейшае пытанне, як правядзенне ўсесаюзнага перапісу жывёлы. Наш раён паспяхова справіўся з правядзеннем гэтай работы, датэрмінова скончан перапіс, ахоплена больш 10% калгасна-сялянскіх двароў кантрольнай праверкай.

У цэнтры ўвагі раённага Кіраўніцтва і інспектуры стаіць пытанне аб правільнай пастаноўцы учота і справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах.

Мы нястомна змагаемся, каб зрабіць нашы советы і калгасы ўзорнымі ў пастаноўцы ўчота і справаздачнасці.

У мінулыя гады Лоеўскі раён заўседы быў на апошнім месцы ў рэспубліцы па якасці работ інспектуры, ды і к таму не было ніякай чуласці, што ў раёне маецца інспектура Наргасучоту.

Зусім іншае мы маем у 1934 годзе.

Ліквідавана ў асноўным запазычаннасць па працы інспектуры, ды і к таму ў цэнтры ўвагі стаіць інспектура сярод кіраўніцтва раёну, на аснове чаго мы дабіліся за апошні год адпаведных умоў для работы інспектуры.

Значна павысілася якасць работы інспектуры: калі ў мінулыя гады раён у асноўным быў у 3—4 катэгорыіі, дык у гэтым годзе якасць работы інспектуры павысілася да 2-ой і нават 1-ай катэгорыі.

Дзякуючы умацаванню барацьбы з парушальнікамі ўчотнай дысцыпліны, наладжана правільная пастаноўка ўчота і справаздачнасці ў советах і калгасах; альбо хаця ўзяць аддзелы РВК, у той час, як у Райзо было грубейшае парушэнне ўчотнай дысцыпліны, зараз гэтае з'явішча поўнасцю ліквідавана, правільна наладжан учот і справаздачнасць.

Наша інспектура ўключылася ў конкурс на лепшую інспектуру, у выніку чаго, мы дабіліся значных поспехаў.

Безумоўна гэтыя поспехі ні ў якім разе нас не здавальняюць.

Мы намагаем усе свае сілы, каб ператварыць Лоеўшчыну ў перадавы раён БССР.

*Бацяноўскі*

м. Лоеў

---

## Кіраўніцтву Наргасучота

Не паслабляючы тэмпаў працы, Копыльская інспектура Наргасучота, абгаварыўшы ўмовы конкурса на вытворчай нарадзе работнікаў інспектуры і ўчастковых інспектароў, прызнае абвешчаны конкурс своечасовым і патрэбным для ажыццяўлення дырэктыў партыі і Ураду па палепшанню соцыялістычнага ўчоту.

Просім лічыць нашу інспектуру спаборнічаючайся і ўключыўшайся ў конкурс.

Абавязуемся выканаць умовы конкурса.

Адказваючы на выклік Чырвона-Слабодскай Інспектуры—выклікаем прымежны з намі, з якім спаборнічае раён па ўсім паказчыкам- Уздзенскі раён.

*Барысаў*

---

